


ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES







# 2










ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**




# Сабаччае змярканне

ПЯТАЯ ЧАСТКА ЖЫВЁЛЬНАЙ ФЕРМЫ

СЦЭНАР: **БІЛ УІЛІНГХЭМ**
АЛОВАК: **МАРК БУКІНГЕМ**
ТУШ: **СЦІВ ЛЭЙАЛОА**
ЛЭТЭРЫНГ: **ТОД КЛЯЙН**
КОЛЕР І СЕПАРЫРАВАННЕ: **ДАНІЭЛЬ ВОЗО**
ВОКЛАДКА: **ДЖЭЙМС ДЖЫН**
АС. РЭДАКТАРА: **МАРЫЯ ХОХНЭР**
РЭДАКТАР: **ШЭЛІ БОНД**
ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: **АРТУР БАРАДАЧОЎ**
АФАРМЛЕННЕ: **СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**


...КККККО?...


САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ НАЗАД, БЕЛА.
...КККККОКІ?...

КОЛЬКІ **ШТО**? КОЛЬКІ ЧАСУ ПРАЙШЛО З ТАГО МОМАНТУ, ЯК ЦЯБЕ **ПАДСТРЭЛІЛІ**, ТЫ ГЭТА МАЕШ НА ЎВАЗЕ?
ТЫ БЫЛА Ў КОМЕ БОЛЬШ ШАСЦІ ТЫДНЯЎ. МЫ ЎСЕ ПА ЧАРЗЕ САЧЫЛІ ЗА ТАБОЙ. КАРОЛЬ КОЛЬ ТОЛЬКІ-ТОЛЬКІ ПЕРАДАЎ МНЕ ЦЯБЕ ГЭТАЙ РАНІЦАЙ.
...ШЦЦЦЕЕЕЕ?...
Я НЕ ЛІЧУ, ШТО ТАБЕ ВАРТА СПРАБАВАЦЬ ЗАРАЗ РАЗМАЎЛЯЦЬ. КАЛІ АБЯЦАЕШ ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ СПАКОЙНА І ЦІХА, БУДУ РАДЫ ПАВЕДАМІЦЬ ТАБЕ ПРА ТОЕ, ШТО АДБЫЛОСЯ.


АЛЕ ТОЛЬКІ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІНАК.
ПОТЫМ МНЕ ТРЭБА ПАВЕДАМІЦЬ ДОКТАРУ СВІНОЕ СЭРЦА, ШТО ТЫ ВЯРНУЛАСЯ ДА НАС.


«АДНАК ЗРАЗУМЕЙ, ШТО БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ Я ДАВЕДАЎСЯ З ДРУГІХ РУК, ТАМУ ШТО МНЕ ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ ДАЗВОЛЕНА ЗНАХОДЗІЦЦА НА ФЕРМЕ».
**НАЗАД,** ТРАСЦА ВАМ У БОК!


«РАЗЛАДЖАНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ ПАГРАЖАЛАСЯ ВЫБУХНУЦЬ ЗНОЎ У ХАОСЕ, ЯКІ НЕАДКЛАДНА РУШЫЎ УСЛЕД ЗА ТЫМ, ЯК ЦЯБЕ ПАДСТРЭЛІЛІ».
ТУ-ТУ! ТУ-ТУ!
СУПАКОІЦЕСЯ, ВЫ ПРАКЛЯТЫЯ, АБО Я ПРЫСТРЭЛЮ ВАС **УСІХ** ТАМ, ДЗЕ ВЫ СТАІЦЕ!
«АЛЕ ПАСТУШОК, СІНЕБАРОД І ТВОЙ БЫЛЫ МУЖ ХУТКА АВАЛОДАЛІ СІТУАЦЫЯЙ».


ТЫ, ХЛОПЕЦ, НЕ ТРУБІ БОЛЬШ У СВОЙ ПРАКЛЯТЫ ГОРАН, А ТО Я МАГУ **ЗАБЫЦЦА**, ШТО ТЫ НА НАШЫМ БОКУ.


«ЯК Я ЗРАЗУМЕЎ, НАВАТ **МАЛПА** ПАСТУШКА ЧЫМСЬЦІ ДАПАМАГЛА, ХОЦЬ НЕ МАГУ ЎРАЗІЦЬ ЯК».
ЗДАВАЙСЯ, МАЛЕНЬКАЯ КУРЫЦА! ТЫ НЯ ЗМОЖАШ ВЫРАТАВАЦЦА АД НАШАГА ІМКЛІВАГА І НЕМІНУЧАГА **ПРАВАСУДДЗЯ**.
АЛЕ Я **НЕВІНАВАТАЯ!** МЯНЕ **ПАДСТАВІЛІ!** СЭРЦАМ Я **ЗАЎСЁДЫ** БЫЛА З ВАМІ, ХЛОПЦЫ! **СУМЛЕННА!**


«КАЛІ ЎСТАЛЯВАЛАСЯ ПАДАБЕНСТВА ПАРАДКУ ЛАЯЛЬНЫЯ КАЗАЧНЫЯ ВЫЙШЛІ НА ПОШУКІ ЗЛАТАВАЛОСКІ».
ТЫ ЛІЧЫШ САПРАЎДЫ ЁСЦЬ ШАНЦ, ШТО ЯНА **ЎСЁ ЯШЧЭ** НЕПАДАЛЁК?
У ЯЕ БЫЛО БОЛЬШ **ГАДЗІНЫ**, КАБ ЗБЕГЧЫ.


«ЯНЫ ЗНАЙШЛІ ЯЕ ЗБРОЮ, ДЗЕ ЯНА ЯЕ КІНУЛА, АЛЕ ДА ТАГО ЧАСУ ЯНА ЎЖО ДАЎНО ЗНІКЛА».
ЯНА НЯ МОЖА ХАВАЦЦА АД НАС ВЕЧНА. КУДЫ ЯНА МАГЛА **ПАЙСЦІ**?
САПРАЎДЫ, НЕ НАЗАД ЖА У РОДНЫЯ ЗЕМЛІ. Я ЧУЎ, ВОРАГ ЖАДАЕ ЎБАЧЫЦЬ ЯЕ МЁРТВАЙ НЯ МЕНШ, ЧЫМ МЫ.


«І ЎЦЁКІ ЗЛАТАВАЛОСКІ БЫЛІ МЕНШЫМІ З ІХ ПРАБЛЕМ».
«ІМ ЎСЁ ЯШЧЭ ТРЭБА БЫЛО ВЫРАШЫЦЬ, ШТО РАБІЦЬ СА ЗДРАДНІКАМІ-КАЗАЧНЫМІ І ШТО РАБІЦЬ З ПАБУДЖАНЫМ ЦМОКАМ І ТРЫМА ГІГАНТАМІ».
Я ГАЛОДНЫ.


БЫЛО ДАСТАТКОВА СКЛАДАНА ХАВАЦЬ ІХ АД **ЗВЫЧАЙНЫХ** НАВАТ І ТАДЫ, ПАКУЛЬ ЯНЫ СПАЛІ.
І ГЭТА ЎСЁ, ШТО Я ЗБІРАЎСЯ ТАБЕ РАСКАЗАЦЬ НА ГЭТЫ МОМАНТ, ТАМУ ШТО МНЕ САПРАЎДЫ ТРЭБА ПАВЕДАМІЦЬ, ШТО ТЫ НАРЭШЦЕ ПРАЧНУЛАСЯ.


І ПАДАЗРАЮ, ТАБЕ ТРЭБА ТРОХІ НЕКАМАТОЗНАГА АДПАЧЫНКУ.
ШПІТАЛЬ МАЛЬТЫЙСКІХ РЫЦАРАЎ


ПРАЙШЛО ДВА ТЫДНІ.
АДЗІН ГОСЦЬ ЗА РАЗ, І ГЭТА **КАНЧАТКОВАЕ** ВЫРАШЭННЕ ЦІ Я ЗАБАРАНЮ **ЎСІМ** ВАМ.
КАЛІ ВЫ ТАК НАСТОЙВАЕЦЕ, ДОКТАР.
ШПІТАЛЬ МАЛЬТЫЙСКІХ РЫЦАРАЎ


ДОБРАЙ РАНІЦЫ, БОЗЛІ. ЗАРАЗ ТВАЯ ЧАРГА Ў ЯКАСЦІ СЯДЗЕЛКІ?
КОЖНЫ ТРЭЦІ ДЗЕНЬ, ЖАДАЕШ ТЫ ГЭТАГА ЦІ **НЕ**.


ЯК ТАБЕ ПЕРАХОД НАЗАД ДА **САПРАЎДНАЙ** ЕЖЫ?
КАЛІ ГЭТА РЭДЗЕНЬКАЯ КАША ЛІЧЫЦЦА ЗА «САПРАЎДНУЮ ЕЖУ», ТАДЫ ХАЙ ПРОСТА ЎСТАВЯЦЬ НАЗАД ГЭТЫЯ ЎНУТРЫВЕННЫЯ ТРУБКІ.


Я ПАБАЧУ, ЦІ ЗМОГУЦЬ ЯНЫ ЗРАБІЦЬ ЛЕПЕЙ. А АКРАМЯ ДРЭННАЙ **КУХНІ**, ЯК ТЫ СЯБЕ АДЧУВАЕШ?
СУМУЮ ДА **ВАР'ЯЦТВА**. ДАПАМАЖЫ МНЕ ЗБЕГЧЫ АДСЮЛЬ, І Я ТВАЯ НАВЕКІ.


ПРАБАЧ, СНЕЖКАПАДКА, АЛЕ Я НА **ІХ** БАКУ. ПАКУЛЬ У ЦЯБЕ НЯЗМЕННЫ СТАН. АЛЕ ЦЯБЕ ЯШЧЭ ЧАКАЕ ДОЎГІ ШЛЯХ, ПЕРШ ЧЫМ ТЫ АФІЦЫЙНА АКРЫЯЕШ.
ТАДЫ, ПРЫНАМСІ, РАСКАЖЫ МНЕ АПОШНІЯ НАВІНЫ. АД ТЭЛЕБАЧАННЯ ЗВЫЧАЙНЫХ ЦЭЛЫМІ ДНЯМІ АДМІРАЕ ЎСЁ, ШТО ЗАСТАЛАСЯ АД МАІХ МАЗГОЎ.


НУ, ПАЧАЎСЯ **ВАЙСКОВЫ ТРЫБУНАЛ**.

УСТАНЬЦЕ Ў ЧАРГУ! **НЕ** РАЗМАЎЛЯЦЬ!
ПАМЯТАЙЦЕ, КАЛІ ВЫ ЖАДАЕЦЕ ПРАД'ЯВІЦЬ ДОКАЗЫ ДЛЯ ЗМЯКЧЭННЯ, ЧАСТКОВАГА АПРАЎДАННЯ ЦІ НАВАТ ЗНЯЦЦЯ **ЎСІХ** АБВІНАВАЧАННЯЎ, **ВАМ** ТРЭБА ЎПАМЯНУЦЬ ПРА ГЭТА, КАЛІ ВЫ БУДЗЕЦЕ Ў ПАЧАТКУ ЧАРГІ.


НАСТУПНЫ?
КАРОЛЬ ЛУІ З ГРУПЫ КАЗАЧНЫХ ІСТОТ КІПЛІНГА.
АБВІНАВАЧАННІ?


АКТЫЎНАЕ СПРЫЯННЕ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАМ, АЛЕ НЕ ЗАВАДАТАР, УДЗЕЛЬНІЧАЎ У ПАЛЯВАННІ НА БЕЛАСНЕЖКУ.
ВЫ АСПРЭЧВАЕЦЕ ГЭТЫЯ АБВІНАВАЧАННІ ЦІ НАСТОЙВАЕЦЕ НА ФАРМАЛЬНЫМ СУДЗЕ?



НЕ, Я ДУМАЮ, ШТО НЕ.
У ТАКІМ ВЫПАДКУ Я ПРЫСУДЖАЮ ВАМ 20 ГАДОЎ КАТАРЖНАЙ ПРАЦЫ, З МАГЧЫМАСЦЮ ЗНІЖЭННЯ ПРЫ ЎМОВЕ ВАШЫХ ДОБРЫХ ПАВОДЗІН.
БУХ
НАСТУПНЫ.




ЛІС РЭЙНАРД. АБВІНАВАЧАННЯЎ НЯМА. АКТЫЎНА СУПРАЦІВІЎСЯ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАМ І ТАКІМ ЧЫНАМ ВЫРАТАВАЎ ЖЫЦЦЁ БЕЛАСНЕЖКІ.
ЗА ГЭТА СУПОЛКА КАЗАЧНЫХ ПЕРАД ВАМІ Ў НЕАПЛАТНЫМ **ДАЎГУ**.




Я СПАДЗЯЮСЯ, ВЫ ПРАБАЧЫЦЕ НАС ЗА ТОЕ, ШТО МЫ АДКЛАДВАЕМ ЯКОЕ-НЕБУДЗЬ ФАРМАЛЬНАЕ ПРЫЗНАННЕ ВАШЫХ НАТХНЁНЫХ ГЕРАІЧНЫХ ДЗЕЯННЯЎ ДА ДРУГОГА ВЫПАДКУ.
НІЯКІХ ПРАБЛЕМ, Я **РАДЫ** ДАПАМАГЧЫ.




НАСТУПНЫ.
ПАРАСЯ ПОЎЗІ. ЗАВАДАТАР РЭВАЛЮЦЫІ. СУЎДЗЕЛЬНІК ЗАБОЙСТВА ПАРАСЯ КОЛІНА, ВЫКРАДАННЯ І ЗНЯВОЛЕННЯ ВЕЛУНДА КАВАЛЯ І СПРОБЫ ЗАБОЙСТВА БЕЛАСНЕЖКІ.




У СВАЮ АБАРОНУ, ЖАДАЮ ЗАЯВІЦЬ, ШТО...
ПАКІНЬЦЕ ГЭТА НА ПАСЛЯ.
ПАРАСЯ ПОЎЗІ ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА ДЛЯ ФАРМАЛЬНАГА СУДА І РАЗГЛЯДУ МАГЧЫМАЙ СМЯРОТНАЙ КАРЫ.
БУХ




АДВЯДЗІЦЕ ПАРАСЯ ПАД ВАРТУ.
НАСТУПНЫ.







СУР'ЁЗНА?

ПЕРШАЙ СПРАВАЙ ЗАЎТРА РАНІЦАЙ.

ВІНШУЮ, СЯБРОЎКА. ТЫ НАРЭШЦЕ **ВЫРВАЛАСЯ**.

НАМ ТРЭБА АДСВЯТКАВАЦЬ. ХТО-НЕБУДЗЬ З ВАС ПРАНЕС **ШАМПАН-СКАЕ** ЦЕРАЗ ГЭТЫХ ШТУРМАВІКОЎ?









ПАРАСЯ ДАН, ВЫ ТАКСАМА БЫЛІ ВІНАВАТЫМ У ЦЯЖКІХ ЗЛАЧЫНСТВАХ СУПРАЦЬ УСІХ КАЗАЧНЫХ ІСТОТ, ПАКАРАННЕ ЗА ГЭТА – **СМЕРЦЬ**.
ДЖЭК КЕТЧ*, ПРЫВЯДЗІ ПРЫСУД У ВЫКАНАННЕ.
І ПАСПРАБУЙ СА МНОЙ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ З МАІМ КУЗЭНАМ, НЕКАМПЕТЭНТНЫ ТЫ МЯСНІК.
ПАБАЧЫМ, ЦІ ЗМОЖАШ ТЫ ЗРАБІЦЬ ГЭТА ЗА **ДЗЕСЯЦЬ** УДАРАЎ ЦІ МЕНШ.

*ДЖЭК КЕТЧ – ІМЯ ВЯДОМАГА СВАЁЙ БЯЗЛІТАСНАСЦЮ БРЫТАНСКАГА КАТА, ЯКІ ЖЫЎ У 17 СТАГОДДЗІ. З ЧАСАМ ІМЯ СТАЛА НАМІНАЛЬНЫМ І ВЫКАРЫСТОЎВАЕЦЦА ЯК СІНОНІМ ДА СЛОВА КАТ.


НАСТУПНАЙ РАНІЦАЙ...
ЯК КАЗАЧНЫЯ НА ФЕРМЕ ЎСПРЫНЯЛІ ГЭТА?


ПРЫКЛАДНА ТАК ДОБРА, ЯК МОЖНА БЫЛО ЧАКАЦЬ, УЛІЧВАЮЧЫ ДРЭННЫЯ ДНІ, ЯКІЯ ПАПЯРЭДНІЧАЛІ ГЭТАМУ І ЗРАБІЛІ ГЭТА НЕАБХОДНЫМ.


ТРЭБА ЧАС, ПЕРШ ЧЫМ ТАМ УСЁ ПРЫЙДЗЕ Ў НОРМУ.
КАЛІ ПРЫЙДЗЕ **НАОГУЛ**.
RAMP


ГЭТА АДБУДЗЕЦЦА, БЕЛА. АДНА З ПРЫВІЛЕЯЎ АМАЛЬ БЕССМЯРОТНАСЦІ ГЭТА ТОЕ, ШТО МЫ ВУЧЫМСЯ ПРЫМАЦЬ І ПРЫСТАСОЎВАЦЦА АМАЛЬ ДА ЎСЯГО... З ЧАСАМ.


МАБЫЦЬ ТАК, ШТО БОЛЬШ ЦІ МЕНШ ПАДЦЯГВАЕ НАС ДА **АДНОЙ** ТЭМЫ, ЯКУЮ КОЖНЫ З НАС СПРАБАВАЎ АБЫХОДЗІЦЬ ВАКОЛ МЯНЕ.
І **ШТО** Ж ГЭТА БУДЗЕ?




КАЛІ МАЯ **СЯСТРА** ЎЗЫДЗЕ НА **ПЛАХУ**? ЦІ ГЭТА ЎЖО **АДБЫЛОСЯ**?

ПРА ШТО ТЫ, **ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ**, БАЛБОЧАШ?

САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ НАЗАД, БЕЛА.

ЯК ТЫ СЯБЕ АДЧУВАЕШ?

КАЛІ ТЫ ВЕРНЕШСЯ НА ПРАЦУ?







Я РАЗВАЖАЛА. ЯНА ТАДЫ ВЕЛЬМІ ВЫРАЗНА ДАЛА ГЭТА ЗРАЗУМЕЦЬ. ШТО, НА ТВАЮ ДУМКУ, ПАТРАБУЕ ДАДАТКОВЫХ ТЛУМАЧЭННЯЎ?
САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ ДАДОМУ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА. МЫ ВЕЛЬМІ ЗАСУМАВАЛІ ПА ВАМ ЗА ГЭТЫЯ МЕСЯЦЫ.

ТЫ ШТО, ЗУСІМ НЯ ВЕДАЕШ, ШТО ЯНА ВЫРАТАВАЛА ТАБЕ ЖЫЦЦЁ?
ПРАБАЧ?

УСЁ ЎСПЛЫЛА НА ЯЕ СЛУХАННІ.
РЭВАЛЮЦЫЯНЕРЫ ТОЛЬКІ ШТО ЗАБІЛІ КОЛІНА, А ПАСЛЯ ЦАЛКАМ АДРЭЗАЛІ ЦЯБЕ АД ЗНЕШНІХ КАНТАКТАЎ, ДЛЯ ЯЕ БЫЛО ВІДАВОЧНЫМ... КАЛІ НЕ ДЛЯ ЦЯБЕ... ШТО ВЫ АБЕДЗВЕ БЫЛІ НАСТУПНЫМІ.
ФАКТЫЧНА ТЫ Б НАЎРАД ПЕРАЖЫЛА НОЧ.

ТАКІМ ЧЫНАМ РУЖА ПЕРАКАНАЛА РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАЎ, ШТО ЯНА ІМ СІМПАТЫЗУЕ. ЯНА З НЕХАЦЦЮ ЗГАДЗІЛАСЯ ДАЛУЧЫЦЦА ДА ІХ. АЛЕ ТОЛЬКІ З УМОВАЙ, ШТО ЯНЫ НЕ ЗАБ'ЮЦЬ ЦЯБЕ АДРАЗУ Ж.

НУ АКЕЙ, ЯНА СКАЗАЛА ШТОСЬЦІ ТАКОЕ, АДЗІН РАЗ, АЛЕ Я ЛІЧЫЛА...
ЯНА ДАСТАТКОВА ЦЯГНУЛА ЧАС, КАБ АДНА З ВАС ЗНАЙШЛА СПОСАБ ВЫБРАЦЦА З ВАШАГА ЦЯЖКАГА СТАНОВІШЧА... ШТО ТЫ, У РЭШЦЕ РЭШТ, І ЗРАБІЛА.

ПАРАЗІ МЯНЕ МАЛАНКА ЗА МАЮ ДУРАСЦЬ, БОЗЛІ. Я І НЯ ДУМАЛА...






НУ, СЛОВА ГОНАРУ, ДЫК ГЭТА Ж САМ ЭСКВАЙР ВЕЛУНД КАВАЛЬ, ВЯРНУЎСЯ З ФЕРМЫ Ў ПЕРШЫ ЦЁПЛЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ. **ДЗВЕ** НЕЧАКАНЫЯ РАДАСЦІ АДРАЗУ.
ПРЫВІТАННІ, ДЖОН. СУМНА КАЗАЦЬ, АЛЕ ГЭТА НЕЧАКАНА ДЛЯ **ЎСІХ**.


БЕЛАСНЕЖКА, ВЫКЛІКАЛА МЯНЕ СЮДЫ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, КАБ ЗВОЛЬНІЦЬ ЗА ТОЕ, ЯК Я НАПАРТАЧЫЎ, КАЛІ КІРАВАЎ ФЕРМАЙ.
ОХ, БОЖА, НЕЙКІЯ ЦЁМНЫЯ **СПРАВУШКІ**, ШТО БЫЛІ Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ. **ЖУДАСНЫЯ** ДНІ.


РАСКАЖЫ МНЕ ПРА ГЭТА.




АЛЕ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ГЭТА, ТЫ ПАВІНЕН РАЗУМЕЦЬ, ЧТО ТЫ НІЯКІМ ЧЫНАМ НЯ МОЖАШ АДНАВІЦЬ КІРАВАННЕ ФЕРМАЙ...

ТАК, Я ВЕДАЎ, ШТО ТАК ЦІ ІНАКШ СА МНОЙ БЫЛО СКОНЧА-НА Ў ТУЮ НОЧ, КАЛІ ЯНЫ ЎПЕРШЫНЮ ПРЫЙШЛІ ЗА МНОЙ. ТАБЕ ПАТРЭБЕН БОС, ЯКІ ЗМОЖА ПРАЦЯГ-ВАЦЬ ВЫКЛІКАЦЬ У ІХ ПАВАГУ.

ПРАБАЧ, ВЕЛУНД.

ДА НІЧОГА. ПА ПРАЎДЗЕ КАЖУЧЫ, Я ЎЖО РАЗВАЖАЎ НАКОНТ ТАГО, КАБ ПЕРАЕХАЦЬ У ГОРАД, УПЕРШЫНЮ ЗА... КОЛЬКІ? ЗАРАЗ ГЭТА ЎЖО ПОЎНАЕ СТАГОДДЗЕ?


Я АДОБРЫВАЮ, КАЛІ ГЭТА ТВАЁ ВЫРАШЭННЕ, АЛЕ МНЕ ЦІКАВА, ЦІ МАГУ Я СПАЧАТКУ ПАПРАСІЦЬ ЦЯБЕ ВЫКАНАЦЬ НОВУЮ ЗАДАЧУ?
ТАК?


ДАВАЙ ТРОХІ ПРОЙДЗЕМСЯ. КУДЫ-НЕБУДЗЬ, ДЗЕ МЫ ЗМОЖАМ ПАГАВАРЫЦЬ ВОКА НА ВОКА.
ШТУРХАЙ.


ГЭТЫЯ ПЯЧОРЫ ЗА ГОРАДАМ УСЁ ЯШЧЭ ЗАПОЎНЕНЫ АГНЯСТРЭЛЬНАЙ ЗБРОЯЙ ЗВЫЧАЙНЫХ, ПРАВІЛЬНА? ПАДУМАЕШ НАКОНТ ТАГО, КАБ ПРАЦЯГВАЦЬ ПЕРАРАБЛЯЦЬ ЯЕ ДЛЯ ВЫКАРЫСТАННЯ НЕ ЧАЛАВЕКАПАДОБНЫМІ КАЗАЧНЫМІ?
А? АЛЕ Я ДУМАЎ, ШТО ТЫ НЕ ПАДТРЫМЛІВАЕШ...


НЕ, Я НЕ ПАДТРЫМЛІВАЮ НІ РЭВАЛЮЦЫІ, НІ ІХ МЕТАДЫ. АЛЕ ІХ ІДЭЯ СТВАРЭННЯ СУЧАСНАЙ ЗБРОІ, ЯКУЮ МЫ МОЖАМ ВЫКАРЫСТАЦЬ СУПРАЦЬ ВОРАГА - ЯНА ДОБРАЯ.
МЫ БУДЗЕМ ДУРНЯМІ, КАЛІ НЕ СКАРЫСТАЕМ ЯЕ.


ТЫ ЖАДАЕШ УВАРВАЦЦА Ў РОДНЫЯ ЗЕМЛІ?
БЕЗУМОЎНА. НЯ СЁННЯ, НЕ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ, І, НАПЭЎНА, НАВАТ НЕ Ў ГЭТЫМ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ... АЛЕ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ТАК.


ВОРАГ МАЕ ПЕРАВАГУ Ў ЖЫВОЙ МОЦЫ. У ЯГО **СОТНЯ** ВЕДЗЬМАЎ ЦІ ВЯДЗЬМАКОЎ НА КОЖНАГА **ТАКОГА** Ў НАС. НАМ НЕАБХОДНА **ПЕРАВАГА** Ў ЗБРОЕ.


НУ ДЫК ШТО, ТЫ ПРАЦЯГНЕШ ДАВАЦЬ ЯЕ НАМ? ЗРАЗУМЕЛА Ў ГЭТЫ РАЗ БЕЗ **ЗАКОЎВАННЯ Ў ЛАНЦУГІ.** ТЫ ЗМОЖАШ ПРАЦАВАЦЬ У ТАКІМ ТЭМПЕ, ЯКІ ТАБЕ ПАДЫХОДЗІЦЬ.
Я ПАРАЗВА-ЖАЮ НАД ГЭТЫМ.


КАЛІ ТЫ НА СЁННЯ ПАСЕЛІШ МЯНЕ Ў АДНЫМ З ГОСЦЕВЫХ ПАКОЯЎ ВУДЛЭНДА, ТО МЫ ЗМОЖАМ ПРАЦЯГНУЦЬ ЗАЎТРА.
ДЗЯКУЙ. ПАЕХАЛІ СЮДЫ.


ПАКУЛЬ ШТО Ў МЯНЕ ДЛЯ ЦЯБЕ ЁСЦЬ НЕВЯЛІКІ **СЮРПРЫЗ**, ХОЦЬ Я НЯ ЎПЭЎНЕНЫ, ЦІ ДОБРЫ ЁН... ЦІ НААДВАРОТ.
ТАК? ШТО ГЭТА?


РУЖА ЧЫРВАНЬ ПРЫЕХАЛА З ФЕРМЫ РАЗАМ СА МНОЙ. ЯНА ПРАРАБІЛА ТАМ ЦУДОЎНУЮ ПРАЦУ, АЛЕ Я ЛІЧУ, ТЫ ЎЖО ГАТОВАЯ СУСТРЭЦЦА З ЁЙ ТВАР У ТВАР.
ЯНА ЧАКАЕ Ў МАШЫНЕ, КАЛІ ТЫ ЯШЧЭ НЕ ЖА-ДАЕШ ЯЕ БАЧЫЦЬ.


ДАВАЙ.
ЯНА ЧАКАЕ ЦЯБЕ Ў КАПЛІЦЫ. ГЭТА МАЛЕНЬКАЕ ПА-МЯШКАННЕ ЗА...
Я ВЕДАЮ ДАРОГУ.


НУ ВОСЬ І Я. ВЯРТАННЕ БЛУДНАЙ І ЎСЁ ТАКОЕ.
ЗАХОДЗЬ. ЭМММ, Я..., ЭЭ...


ВІДАВОЧНА, НАДЫШОЎ ЧАС ДЛЯ ЯШЧЭ АДНАГО З БЯСКОНЦАЙ ЧАРАДЫ НЯЎДАЛЫХ МОМАНТАЎ ПАМІЖ АДЧУЖАНЫМІ СЁСТРАМІ.


Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО НЕ. ПРЫНАМСІ, Я СПАДЗЯЮСЯ, АДНОЙЧЫ МЫ ЗМОЖАМ ГЭТА ЗДОЛЕЦЬ, І МАБЫЦЬ ВЯРНУЦ-ЦА ДА ТАГО, ШТО Ў НАС БЫЛО ДАЎНЫМ-ДАЎНО.
ТЫ САПРАЎДЫ ТАК ЛІЧЫШ? ГЭТА НААГУЛ МАГЧЫМА?


ТАК. ТАМУ ШТО Я ДАЎНО ПРАБАЧЫЛА ЦЯБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ ЗРАБІЛА.
АА? ЯК ЖА ГЭТА ВЫСАКАРОДНА З ТВАЙГО БОКУ.


А ШТО КАЛІ Я ЦЯБЕ ЯШЧЭ НЕ ПРАБАЧЫЛА?


ЗА ШТО?
ШТО Я КАЛІ-НЕБУДЗЬ ТАБЕ РАБІЛА, КАБ ЗАСЛУЖЫЦЬ ТАКІЯ ДОЎГІЯ ГАДЫ ЯЎНАЙ ПАГАРДЫ?
ХІБА ГЭТА НЕ ВІДАВОЧНА, НАВАТ ДЛЯ ТАКОЙ НЯПАМЯТЛІВАЙ ЯК ТЫ?


БАЧНА, ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА МНЕ РАСТЛУМАЧЫЦЬ.
ПАГЛЯДЗІ НА СЯБЕ! ТЫ ЖЫВАЯ!
Я СТАЯЛА ПОБАЧ З ТАБОЙ, КАЛІ ПАЛОВУ ТВАЁЙ МАЗГАЎНІ РАЗМАЗАЛА ПА МАЁЙ МАРКІТАВАНАЙ ФУТБОЛЦЫ.


ТВАЕ ЧЭРАП І МАЗГІ БЫЛІ ЎСЕ... І ЎСЁ РОЎНА ТЫ АЧУЛАСЯ! ЯК ГЭТА НАОГУЛ МАГЧЫМА?
Я НЯ ВЕДАЮ.
Я, НА ЖАЛЬ, ВЕДАЮ. МІЛЬЁНЫ ЗВЫЧАЙНЫХ АБАЖАЮЦЬ ЦЯБЕ. СОТНІ МІЛЬЁНАЎ.


ЯНЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ РАБІЦЬ СВАЕ ЖУДАСНЫЯ АНІМАЦЫЙНЫЯ ФІЛЬМЫ І ПІСАЦЬ СВАЕ БЯСКОНЦАВЫЯ ДЗІЦЯЧЫЯ ГІСТОРЫІ ПРА ЦЯБЕ. ТАКІМ ЧЫНАМ ТЫ НЯ МОЖАШ ПАМЕРЦІ!
ЯНЫ НІКОЛІ НЕ ДАЗВОЛЯЦЬ ТАБЕ!


А ХТО ПАМЯТАЕ ПРА МЯНЕ? НІВОДНЫ З ЦЭЛАГА МІЛЬЁНА! РАНЕЙ ЖА БЫЛІ БЕЛАСНЕЖКА І РУЖА ЧЫРВАНЬ. ЦЯПЕР ГЭТА ПЕРЫЯД «ПРОСТА БЕЛАСНЕЖКА». ЗУСІМ АДНА! НЕ ПАТРЭБНА НІЯКАЯ СЯСТРА, І НЕ ПАЖАДАНА, ВЯЛІКІ ВАМ ДЗЯКУЙ!


КАЛІ Б ГЭТА Я ПРЫНЯЛА ТУ КУЛЮ, Я Б БЫЛА БЕЗЗВАРОТНА МЁРТВАЯ.
І ЯКІМ ЧЫНАМ ГЭТА МАЯ ВІНА?


«КАЛІ МЫ БЫЛІ МАЛЕНЬКІЯ Ў ЛЯСНОЙ ХАТЦЫ, МЫ ПАКЛЯЛІСЯ, ШТО ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕМ РАЗАМ».
«ТЫ І Я СУПРАЦЬ УСЯГО СВЕТА... ПАМЯТАЕШ?»


АЛЕ ЯК ТОЛЬКІ З'ЯВІЎСЯ ТВОЙ ПРЫГАЖУНЬКА ЦУДОЎНЫ ПРЫНЦ, ТЫ ПАЕХАЛА З ІМ І НАВАТ НЕ АЗІРНУЛАСЯ.
ГЭТА БЫЛО НЯ ТАК. Я ПАСЛАЛА ЗА ТАБОЙ, КАБ ТЫ ЖЫЛА З НАМІ.


З ЧАСАМ.
А ЯКОЕ Ж МАЁ ВЯЛІКАЕ ЗЛАЧЫНСТВА? Я ВЕЛЬМІ ДОЎГА ПАСЫЛАЛА ЗА ТАБОЙ? ТАМУ ТЫ СПАКУСІЛА ЯГО І ЗАГУБІЛА МОЙ ШЛЮБ... УСЁ, КАБ ПАКАРАЦЬ МЯНЕ?


БІНГА.
ДОБРА. У ТАКІМ ВЫПАДКУ ТЫ ЎЖО ДАЎНО АДПОМСЦІЛА. ЧАМУ Ж ПАСЛЯ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАДОЎ, ТВАЕ КІПЦІКІ ЎСЁ ЯШЧЭ ВЫПУШЧАНЫЯ?

ТАМУ ШТО ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ **ПАПУЛЯРНАЯ**, А Я СТАМІЛАСЯ ЖЫЦЬ У ТВАІМ ЦЕНІ.
ТАДЫ **ЗРАБІ** З ГЭТЫМ ШТО-НЕБУДЗЬ.

УЖО. Я ПРАЦАВАЛА НА ФЕРМЕ, ПЕРШ ЗА ЎСЁ, КАБ ЗАГАСІЦЬ СВОЙ АБАВЯЗАК ПА ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ...
ЯКІ СКОНЧЫЎСЯ ЎЖО НЯ МЕНШ, ЧЫМ ШЭСЦЬ МЕСЯЦАЎ ТАМУ.

А ПОТЫМ, ТАМУ ШТО ГЭТА ТРЫМАЛА МЯНЕ ЎДАЛЕЧЫНЕ АД **ЦЯБЕ**. СЮРПРЫЗ... **ПА-ПЕРШАЕ**, Я ВЫЯВІЛА, ШТО Ў МЯНЕ ГЭТА НЯДРЭННА АТРЫМЛІВАЕЦЦА, А **ПОТЫМ** І ШТО ГЭТА МНЕ ПАДАБАЕЦЦА.
ТАМУ ЎСЁ, ШТО ЗАСТАЕЦЦА - ГЭТА **АФОРМІЦЬ** ДАМОЎЛЕНАСЦЬ. ТАБЕ ПАТРЭБЕН НОВЫ КІРУЮЧЫ ФЕРМАЙ.

ТЫ?
А ЧАМУ **НЕ**? ВЕЛУНДА ЗНЯЛІ, А Я МАГУ ВЫКОНВАЦЬ ПРАЦУ. ТЫ КІРУЕШ ГАРАДСКІМ ФЭЙБЛТАЎНАМ, Я ФЕРМАЙ.
ТАКІМ ЧЫНАМ, НАРЭШЦЕ, МЫ ЗНОЎ БУДЗЕМ **НАРОЎНІ**.

«У ЯКАСЦІ МАЁЙ ПЕРШАЙ АФІЦЫЙНАЙ ЗАДАЧЫ Я ЎЖО ЗНАЙШЛА ВЫРАШЭННЕ НАШАЙ ПРАБЛЕМЫ З ГІГАНТАМІ І ЦМОКАМІ. ЯНЫ НЕ ЖАДАЮЦЬ СПАЦЬ ДАЛЕЙ СОТНІ ГАДОЎ БЕСПЕРАПЫННА, І ХТО МОЖА ІХ ВІНАВАЦІЦЬ? АЛЕ Ў ІХ САПРАЎДНАЙ ФОРМЕ МЫ НІКОЛІ НЯ ЗМОЖАМ ІХ ХАВАЦЬ, І ПРОСТА ПРАКАРМІЦЬ ІХ ПАГРАЖАЕ ЗБЯДНЕННЕМ ФЕРМЫ ДА РУБІНКІ. ТАКІМ ЧЫНАМ, НАМ ТРЭБА ЧЫМСЬЦІ АХВЯРАВАЦЬ У **КАРОТКАТЭРМІНОВАЙ** ПЕРСПЕКТЫВЕ, КАБ ПРАДУХІЛІЦЬ КАТАСТРОФУ Ў **БУДУЧЫНІ**».
АКЕЙ, СЛУХАЙЦЕ ХЛОПЧЫКІ, МЫ ЗБІРАЕМСЯ ЗРАБІЦЬ ВОСЬ ШТО.
ВЫ, ХЛОПЦЫ, ВЕДАЕЦЕ, ШТО ТАКОЕ «ЗАКЛЯЦЦЕ ЗАЎСЁДНАЙ ТРАНСФАРМАЙЦЫ»?
«УСЁ, ШТО ТАБЕ ТРЭБА ЗРАБІЦЬ – ГЭТА САНКЦЫЯНІРАВАЦЬ ВЫКАРЫСТАННЕ БЮДЖЭТАЎ ДЛЯ ДАДАТКОВЫХ ВЫДАТКАЎ **АБОДВУХ** ФЭЙБЛТАЎНАЎ ДА КАНЦА ГЭТАГА ГОДА, І МАГЧЫМА НАСТУПНАГА. МЫ ПАВІННЫ КУПІЦЬ **ВЕЛЬМІ** ДАРАГІ НАБОР ЗАКЛІНАННЯЎ».


І дастаткова хутка...
Спадарыні і спадары... асабліва нязначныя госці... паколькі арыгіналы мёртвыя, сустракайце «Трох маленькіх парасят», частка **другая**.
Джоні, Доні і Лоні, раней вядомыя як гіганты.
Дык дзе наш новы катэдж?
Выдатна.
Ты зрабіла гэта.
Цудоўна зроблена, Ружа.


Звычайным патрэбны тры маленькія парасяці, каб адпавядаць іх любімай гісторыі. Ніводны з іх не паклапаціцца аб тым, што гэта іншыя парасяты, з іншымі імёнамі.
А што наконт кларатэ, цмока?


Цяпер Клара мой новы **лепшы сябра** і баявік.
Баявік? Як?


Пакажы ім, салодкая.
Мы вырашылі не чапаць адну з яе самых **карысных** цмачыных якасцяў. Больш ніякіх рэвалюцый тут.
ПШШШШШ!
Чароўна.


«І пазней, калі яна змагла далікатна выслізнуць... тады яна больш не магла стрымліваць іх... Беласнежка знайшла ціхае, утульнае месца і дала волю слязам. Яна аплаквала забойствы і жудасы мінулага года на ферме. І яна плакала па сваёй сястры, якую яна згубіла ня так шмат гадоў таму і, магчыма, зноў знайшла. Але больш за ўсё яна аплаквала страту сапраўднага разумнага сябра па імені Парася Колін».